Год выданьня 1. Вільня, 1 лютага 1929 г. № 1.

„Я і дарога, і праўда, і жыцьцё!“ *Хрыстос.*

# НОВЫ ШЛЯХ

Незалежна-Культурна-Рэлігійная часопісь

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, вул. Троцкая 9, кв. 7.

Выходзіць раз у месяц. Цана асобнага нумару 10 гр.



## Сумуючая душа.

У глыбіні людзкае душы, напоўнянай клопатам штодзённага жыцьця, сьпіць таксама жада і сумнасьць, якую ніадзін назваўбы здаецца дзецінай апораю, якая ўсё ж ёсьць цэнным скарбам, які мае сілу скіраваць грэшнага чалавека на праўдзівы шлях жыцьця, аткрыць перад ім новые кругаўзоры, поўные сьвятла, вольнасьці і радасьці.

Душа чалавека сярод гоману гэтага сьвету, чуе нейкую самотнасьць, нейкую парожнасьць у сябе. Што-ж гэта такое? Тлумачэньне гэнага з'явішча знойдзем толькі ў Бібліі, адкуль даведаемся, што калісьці чалавек меў у сабе Сьв. Дух. Божы, але праз грэх згубіў яго. Адсюль і бярэцца пачатак сумнасьці у людзкай душы. Ёсьць людзі, што, гэтае пачуцьцё стараюцца задушыць, але ёсьць і гэткія што жыць у трывозе ня могуць і шукаюць праўдзівага супакою. Чалавек мае справаздачу з своіх блудоў і грахоў, якія мо' хоцеўбы вычэркнуць з сваей памяці, бо-ж ён і з іх і самога сябе нязадаволяны і хацеўбы пачаць жыцьцё нанова, але жыцьцё чыстае, сьветлае, пекнае, карыснае для сябе і для людзей.

Думка людзкая даўно імкнецца ў гэтым напрамку. Людзі стварылі сабе шмат рэлігіяў і тэорыяў, знайшліся усялякія вучыцялі і рэфарматары, і ніхто із іх ня мог супакоіць сэрца чалавека; ёсьць-жа толькі адна Асоба, якая можа супакоіць чалавека—гэта Сын Божы Ісус Хрыстос, праўдзівы Адкупіцель грэшнага чалавека.

Вось гэтая часапісь мае на мэце адкрыць для тых, што шукаюць 1) што ёсьць новае жыцьцё, якое бярэць пачатк ад Бога, жыцьцё чыстае, актыўнае, нямаючае нічога супольнага з брыдою, фальшам, аблудаю ахапіўшым увесь сьвет—жыцьце у якім ёсьць сэнс, мэта і супраўдная радасьць, 2) якім шля-

хам даунейшыя людзі атрымалі гэтае новае жыцьцё і 3) што аб гэтым гаварыць сучасные людзі з уласнага перакананьня.

Чытач на старонках гэтае часапісі можа і ня знойдзе нічога супольнага з катахізмам, дзеля гэтага мо' ні адзін варожа аднесецца да часопісі, але мы ведаем, што гэта будзе дзеля таго, што ім ляпей жыць старым грэшным жыцьцём, гдзе ня трэба ні аб чым думаць і ні якае натугі.

Аднак верым, што сярод беларускага грамадзянства ў мяжох Польшы, нойдзецца хоць няшмат душ, якія ня формы, але супраўдвую сутнасьць жыцьця шукаюць і вось яны шчыра адклікнуца на наш кліч, каб найсьці супакой для душы і мы ад шчырага сэрца жадаем ім памыснасьці.

## Найгалаўнейшая справа.

Найгалаўнейшай справай кожнага чалавека ёсьць **збаўленьне ягонае душы.** У гэтак для нас важным пытаньні мусіць быць **пэўны** без якогаколечы сумліва адказ. Бо-ж найменшая памылка ў гэнай справе і—чалавек гіне на заўсёды. Хто ня будзе збаўлены—той будзе згублены. Гэтак сказаў сам Ісус Хрыстос: „Хто ўверуе і ахрысьціцца, будзе збаўлены, але хто ня ўверуе будзе згубляны".

Чытач, і ты будзеш альбо збаўлены, албо згубляны. Калі кончыцца гэтае кароткае жыцьцё, пачнецца новае жыцьцё ў вечнасьці, якое ніколі ня кончыцца. **Дзе-ж ты тагды будзеш?** Ці з Богам і анёламі Яго у **вечнай радасьці**, а мо' **далёка** ад Бога як грэшнік?

Чытач, на старонках гэтае часапісі знойдзеш **пэўны адказ**, на вось якія пытаньня: Што гэта такое збаўленьне? Хто можа даць збаўленьне? Што трэба рабіць, каб атрымаць збаўленьне? Ці за збаўленьне трэба плаціць грошы?

### *1) Што гэта такое збаўленьне?*

Збаўленьне—гэта ёсьць асвабоджаньне, або ратаваньне гінучага. Напрыклад. Гарыць хата, а ў ёй хворы чалавек, які ня можа сам выйсьці з вогнішча. Калі яго хто нібудзь з небазпекаю ля свойга жыцьця адтуль выратуе, дык чалавек гэны ёсьць ўратаваны, збаўлены. У гэткім становішчы ёсьць кожны чалавек. Усе людзі зграшылі, дзеля чаго мусіў запылаць **гнеў Божай** Справядлівасьці, у якой ўсе людзі павінны загінуць, калі іх хто ня выратуе. Дзеля гэтага супраўднае збаўленьне людзкае душы мусіць быць тройчае: 1) як дараваньне мінулых грахоў, 2) як забясьпека чалавека у будучыне ад упадку і грэшных нахілаў і 3) як атрыманьне вечнае, шчасьлівае будучыні ў небі.

Чытач, у якой ступені збаўленьня знаходзіся ты?

### *2) Хто можа даць збаўленьне?*

Зусім зразумела, што ратаваць загіяных у гарэўшай хаце, можа толькі той, хто сам у ёй не гарыць. Абчысьціць з балота іншых людзей можа толькі той хто сам ня ў балоце, хто ненавідзіць бруд. Але на сьвеце шмат ёсьць

такіх людзей, якія хочуць другіх збаўляць, хоць самі яшчэ ня збаўляны, хочуць сваіх бліжніх прасьвяцціць, але-ж самі ў грахох. Хочуць іншых ачысьціць, тагды калі самі брудныя. Ці-ж можна іх назваць збаўцамі? Ці-ж можна ім паверыць лёс нашае душы? Калі хто захварэе, а ня хоча памерці, то шукае такога доктара, які-б напэўна памог, а ня даверае сваё здароўе каму нібудзь.

Дык трэба ведаць чытачу, што збавіць або ўратаваць тваю душу ня можа ані адзін чалавек на сьвеце, бо ўсе людзі грэшныя, усе самі патрабуюць збаўленьня. І ты сам сябе збавіць ня можаш. Ці можа чалавек, які тоне ў вадзе, выцягнуць другога з гэтае вады? Ці з хаты, якая гарыць, можаш ратавацца калі сьпіш, або калі хварэеш? Хто ня думае аб сваім збаўленьні, хто любіць грашыць, хто сьпіць акаменелым сном грэха, той і другога ратаваць ня можа.

Толькі Бог хоча і можа ратаваць грэшнікаў. Бог ня хоча сьмерці грэшніка, але каб ён увераваў і жыў. Бо хоча каб усе людзі былі збаўляныя й да пазнаньня праўды прышлі. „Бо так палюбіў Бог сьвет (грэшнікаў г. ё. і цябе чытач), што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто веруе ў Яго, ня згінуў, але меў жыцьцё вечнае“. Гэта ёсьць словы самога Ісуса Хрыста, якога Бог паслаў у сьвет, каб збавіў грэшнікаў, каторыя хочуць быць збаўлянымі. Сьв. Ап. Павел пісаў гэткія словы: „Супраўдная ёсьць тая мова і гожа прыняць яе, што Ісус Хрыстос прышоў на сьвет спасьці грэшнікаў, з якіх я першы“ (І Тім. 1, 15).

Чытач, калі супраўды хочаш збавіць сваю душу, ідзі толькі да Хрыста. Ён-жа бяз грэху. Ён усемагутны і можа кожнага грэшніка збавіць. Ён-жа ёсьць Міласьць і хоча кожнага ратаваць. Ён ня горды і нікога ня адкіне, калі да Яго хто прыходзіць. Колькі ёсьць сьвятых у небі, гэта ўсё праз Яго збаўляны, але колькі душ ёсьць у пеклі, гэта дзеля таго, што шукалі збаўленьня не у Ісуса Хрыста, а ў людзей гэткіх грэшных як і самыя.

### *3) Што трэба рабіць, каб атрымаць збаўленьне?*

Фальшывыя пракрокі й збавіцялі падаюць шмат спосабаў збаўленьня, але найзацекшыя іх вызнаўцы мусяць прызнацца, што яны нічога ня памагаюць. У сьвятым пісаньні нават гаварыцца, што „гэтыя наймілейшыя рэчы нічога ім ня памагаюць“. (Ізая 44, 9). Адзін толькі ёсьць супраўды пэўны сьродак, які прапануе нам сьв. Пісаньне, або словы самога Бога, гэта вера ў Ісуса Хрыста. Ён сам кажа: „Хто веруе ў Мяне, мае вечнае жыцьцё“ (Ян 6. 47). І сьв. Ап. Павал гэткі даў адказ вастрожнаму сторажу: „Вер у Ісуса Хрыста, і будзеш збаўляны ты і дом твой“ (Дз. Ап. 16. 31).

### *4) Як трэба верыць, каб быць збаўляным?*

Гэткае пытаньне вельмі важнае. Без веры ніхто ня можа быць збаўляным. Дзеля гэтага трэба верыць так як вучыць нас сьв. Пісаньне. Сьв. Пісаньне гэта ёсьць Божыя словы, якія ня могуць мыліцца, бо Бог можа гава-

рыць толькі Праўду. Кажуць, што трэба верыць так як вучыць касьцёл. Касьцёл—гэта-ж людзі, якія ня толькі мыляцца, але і ашукаць могуць. **Чытай сьв. Пісаньне. Вер яму.**

Хто верыць у Ісуса Хрыста гэтак, як гаворыць сьв. Пісаньне, той **атрымае гэткую сілу**, што зьненавідзіць грэх, а прыйме праўду і цноту, той будзе чыста і прыгожа жыць і будзе рабіць добрыя ўчынкі. Гэткае сьвятое жыцьцё ня ёсьць сумнае, наадварот, яно ёсьць вельмі прыгожае. П'яніца з прыемнасьцяй кіне піць гарэлку, тыя што кураць, напэўна кінуць люльку, або папяросы, карцёжнікі—карты, распусьнік—благіх калегаў, благія людзі стануцца добрымі і г. д. Усё гэта робіць Ісус Хрыстос. Веруюшчаму Ён дае гэтакую сілу і моц. Ён казаў: „Хто веруе ў Мяне, як сказана ў Пісаньні, ў таго з жывата пацякуць рэкі вады жывое“. (Ян. 7. 38).

*5) Ці за збаўленьне трэба плаціць грошы?*

Вось што гаворыць Бог у сьв. Пісаньні: „Усе з прагненьнем хадзеце да вады, і вы, каторые ня маеце грошай, ідзіце, купляйце і ешце; ідзіце купляйце **без грошай** і без заплаты віно і малако... Паслухайце Мяне уважна, хадзеце да Мяне і **будзе жыць душа ваша**, заключу з вамі вечную згоду“. (Ізая пр. 55—1, 3). Бог сваю ласку і збаўленьне, а гэтак сама і духовую ежу завець віном і малаком.

А вось што казаў Хрыстос: „**зпрагненаму дам дарма з крыніцы жывое вады**“. (Аб. Яна 21. 6).

Апостал Павал пісаў: „Бо ўсе зграшылі і пазбаўляны славы Божае, а бываюць апраўданы **дарма**, праз ласку Яго і адкупленьне ў Ісусе Хрысьце“ (Рым. 3. 23—24). Хрыстос крывёю сваёю адкупіў усіх грэшнікаў і за гэта **ня патрабуе ад нас нашых грошай**. Нашым абавязкам ёсьць Яму толькі падзякаваць і жыць з верою ў Яго.

Калі Ісус Хрыстос пасылаў сваіх вучняў на ўвесь сьвет апавядаць сьв. Эвангельле, хворых лячыць і чартоў выганяць, сказаў: „**Дарма** атрымалі — **дарма** давайце“ (Мацьв. 10. 8).

Ісус Хрыстос **нікому нядазволіў браць грошы** за добрыя учынкі, ані за малітвы, ані за ахрышчаньне, ані за шлюбы, ані за хаўтуры. Гэта ёсьць **абавязак** кожнага праўдзівага Хрыстусовага вучня. Усё гэта трэба рабіць з міласьці. Малітвы і наагул **добрыя учынкі ня ёсьць-жа таварам** да гандлю. Нейкі чалавэк — Сымон пачуўшы, як навучаў сьв. Ап. Пётра, уверааў у Хрыста (але ня шчыра) і ахрасьціўся. Потым бачачы, як Пётра уздараўляў людзей праз ускладаньне рук на іх, прынёс Пятру грошай і прасіў, каб Пётра гэтак сама і яму даў сілу Сьв. Духа. Але вось што адказаў яму Пётра: „Грошы твае няхай будуць з табою на загіненьне, дзеля таго, што думаў дар Божы купіць за грошы“ (Дз. Ап. 8. 20). Ідуць усе на згубу, хто купляе, або прадае дары Божыя за грошы. Замест збаўленьня атрымаюць праклён ад Бога.

Дык з гэтага мы бачым, што збаўленьне дастаецца **дарма** ані за грошы. **Ніхто нікаму ня павінны плаціць**, а толькі падзякаваць Богу за міласьць Яго,

што паслаў ля нас грэшнікаў Ісуса Хр. Сына свойга, які крывёю сваёю адкупіў нас, злучыў нас з сваім Айцом, з грахоў і дрэнных нахілаў уратаваў і даў нам сьветлае, вечнае жыцьцё.

# Патрэба Новага Касьцёла-Царквы.

Сяньня разумныя, разтропныя і вучоныя людзі пачынаюць глядзець на касьцёл, як на арганізацыю ўжо старую, якую піраганала жыцьцё, за арганізацыю зусім няпатрэбную і няадпаведную да сяньняшніх патрэб, няздольныя да вырашаньня сучасных квестыяў і праблемаў.

Пасьпеў ужо час для нейкага Павала, Лютра, Вэслейя, або Гуса, каторы меў-бы сілу зьменіць стары парадак, а ўвясьці новае рэлігійнае жыцьцё, згоднае з духовымі патрэбамі інтэлігэнтнага грамадзянства.

Ужо сяньня да пеўнага стопня можна прадбачыць, якім гэта будзе той новы Касьцёл-Царква. Галоўны націск пакладацца будзе на жыцьцё. Дагматы і артыкулы веры згубяць сваю вартасьць. Сяньня жыцьцё мае большую вартасьць ад усялякіх казаньняў і кніжак. Рэлігія супраўды мусіць стварыць пекнае жыцьцё, калі-б людзі верылі ў яе. Гэрэзыя дрэнага жыцьця больш шкодзе, ад гэрэзыі дактрыны. Сяньня часьцей пытаюць: Як ты жывеш? ці: У што ты верыш?

Калі-б які касьцёл-царква і дала своім парахфіянам „любоў, радасьць, супакой, цярпеньне, дабрату, веру, паўстрымаласьць, чыстату“ (Гал. 5. 22), дык народ гарнуўся-б да яго масаю. Бо-ж заўсёды шукаем нейкога сьвятла у пекным жыцьці. Дасьць нам гета новы касьцёл, каторы замест рэпрэзэнтацый, повагі і урачыстасьці, будзе разпаўсюджваць радасьць жыцьця, да якога кожны чалавек мае права. Яго цяпло і сьвятло будзе прыгарняць несупакойныя і няшчасныя душы, якія да гэтае пары дарма шукалі тога жыцьця, якое сам Бог можа толькі даць.

Праўдаю ёсьць тое і мы гэта бачым, што шмат маладых людзей жывуць жыцьцём вельмі шчырым, пекным і хрысьціянськім, адносіны іх да Бога ў малітве чыстыя, яны ня шукаюць рады у тэолёгаў касьцельных (бо і ня знашліб яе ў іх). Можна гэта спаткаць у краёх хрысьціянскіх, жыхары якіх прымаюць праўду Эвангельля ў прастаце сэрца і тасуюць яе да штодзённага жыцьця. (А ў нас?).

У старых касьцёлах можна спаткаць людзей, якія цьвёрда стаяць на „прававернасьці“, добра ведаюць усе свае догматы і формы, а самі вядуць гыдкае жыцьцё у адносінах да хатняга жыцьця і да другіх людзей. Яны кладуць галоўны націск на веру, выдумваюць на г. з. нядавяркаў і праклінаюць другія рэлігіі толькі за рожніцу ў догматах—але гэта нікога ня можа ні збавіць ні зрабіць шчасьлівым.

Новы касьцёл павінен служыць грамадзянству. Яго маральная вартасьць павіна мерыцца яго карысною працаю. Сьпеў, малітвы і казаньня маюць друга-

радную вартасьць у рэлігійным жыцьці. Галоўнай задачай іх ёсьць заахвочваць грамадзянства до актыўнай хрысьціянскай працы, а ня толькі „хваліць Бога“. Новы касьцёл мусі памагчы рашаць грамадзкія праблемы: духоўнікі і іх памочнікі мусяць вясьці барацьбу з беднасьцяй, безрабоцьцям, духовым і фізычным цярпеньнем. Такі асяродак, гдзе патрэбы і нядахопы людзей знойдуць зразуменьне і рашеньне, грамадзянства аточыць мілосьцяй і паважаньнем. Хрыстос ня гаварыў шмат казаньняў выключна на абстракцыйныя тэматы, (ня набажэнствы адпраўляў) а хворых лячыў, карміў галодных і ўсім памагаў.

Ёсьць ужо шмат рэлігіяў найбольш за граніцай, якія стараюцца спаўніць хрысьціянскія абавязкі у адносінах да грамадзянства, але большасьць з іх у гэтым напрамку нічога не зрабіла.

Некатарыя з іх пабудавалі вялікія касьцёлы, зарганізавалі шмат выхаваўчых гурткоў, палітычных, і разрыўкавых, але не разумеюць яны зусім ідэі безінтэрасоўнае ахвярнасьці сусьветнага грамадзянства. Шукаюць сілы, лічбы, аўторытэту, павялічаньня сябе і г. д.

Здаровае і разумнае духовае жыцьцё, заўсёды ёсьць згодна з розумам і навукай. Новы Касьцёл не павінен выходзіць з рам таго, што здаровы розум можа прыняць. Касьцёлы прошласьці ўжо споўнілі сваю задачу, і за гэта ім належыцца падзяка, але яны сталіся няпатрэбнымі як сьвечка пры электрычнай лямпе.

Спатыкайма з пашанаю гэткія важныя для нас крокі, кожная шчырая натура у гэтым напрамку дае нам гварантыю аб здзійсьненьню гэтага ідэалу.

„Amer.—Echo“.

**Ад Рэдакцыі.** Гэты артыкул, друкаваны у амэрыканскай газэце вельмі тасуецца да нашага рэлігійнага жыцьця у мяжох Польскай Рэспублікі. Калі сьвядомы Беларус каталік, ці праваслаўны прыглядзіцца сучаснаму жыцьцю, то без сумліва угледзіць, як супраўды касьцёл царква з'яўляецца той „сьвечкай пры электрычнай лямпе“ і як даляка правадыры яе адыйшлі ад Сьветлай Ідэі Хрыста.

## Хочам бачыць Хрыста.

На старонках сьв. Эвангельля чытаем: „Былі-ж і Грэкі сярод прыйшоўшых дзеля адпусту ў сьвята, яны падыйшлі да Піліпа і прасілі яго кажучы: Пане, нам хочацца бачыць Ісуса“ (Ян 12, 21).

Ці-ж ня маем і мы гэткага жаданьня? Перадусім хочам бачыць Хрыста ў сучасным хрысьціянстве, а прынамсі сярод тых, хто нас вучыць. Хочам бачыць Яго лагоднасьць, супакой, цярплівасьць, міласердзе, дабрату, міласьць, ахвярнасьць, скромнасьць. Ці-ж на 19 стогодзяў гэтак і не зрэалізуецца сьветлая Ідэя Хрыста—братняя любоў? Хочам перадусім, каб у мяжох Польшчы, ксяндзы і сьвяшчэньнікі праяўлялі ў сваіх паступках сьв. Ідэю Хрыста! Ісус Хрыстос сказаў: „Вось я з вамі ўва ўсе дні да канца сьвету“. Хрыстос—гэта-ж міласьць. А гдзе-ж яна ёсьць? Яна ёсьць на языках у ксяндзоў і папоў, але не там дзе яна мусіць быць?

Сяньня паказваюць нам Ісуса Хрыста ў сакрамэнце, у аплатках і келіху, у абразох, у залатой монстранцыі, у фігурах, у касьцёлах, царквах і г. д., але ня ў хрысьціянах. У гэтых апошніх бачым: лакомства, нячыстасьць, зайздрасьць, гнеў, піянства, гультайства, гордасьць. Гэта самые вялізарные грахі, якія сваімі агыднымі кіпцямі хочуць накрыць дарэшта сьвет. Побач усяго гэтага Хрыстос прабываць ня можа. Там Яго нямашака.

Мы хочам бачыць Хрыста!

# Вялікая радасьць.

Калі Збавіцель наш Ісус Хр. радзіўся на сьвет, явіўся анял Божы пастухом на полі, і сказаў ім: „Ня бойцеся, вось абвяшчаю вам вялікаю радасьць, якая будзе ля ўсіх людзей, дзеля таго, што цяперака радзіўся ў месьці Давідавым Збаўца, які ёсьць Хрыстос Бог“. (Лук. 2. 10—11).

Даўней народ быў вельмі бедны і мусіў плаціць вялізарные падаткі Рымскаму ўраду і духавенству. Духавенству вельмі добра жылося. Яны тлуста елі і пілі, мелі прасторныя пакоі і дарагую вопратку, а народ цярпеў холад і голад, і быў цёмны. А духоўнікі ўсё-ж ня былі ўдзячны народу, а нават пагарджалі ім. Апрача гэтага ў народзе шмат было хворых, пакалечаных, сьляпых і аблутаных нячыстымі духамі. Жыцьцё ў гэткіх абставінах было вельмі нямагчымае. Народ стагнаў і спадзяваўся нейкага збаўленьня, якоя-б выратавала іх з нядолі, а памсьцілася-б на іх крыўдзіцялях і ўвяла ў жыцьцё справядлівасьць.

Дык нічога дзіўнага, што вестка аб народзінах Збаўцы выклікала ў пастушкох і ў бедным пакрыўджаным народзе вялізарную радасьць. Толькі бедны народ з гэтае весткі радаваўся. Карол Ірад вельмі перапужаўся. Духавенства толькі ня пужалася, бо яны ні ва што ня верылі. Яны верылі выключна ў грошы і ў сваю магутнасьць. Дзеля гэтага яны і загадалі свайго збаўцу ўкрыжаваць. Духавенства і каралі надта ня любілі Ісуса Хрыста, бо Ён ім мяшаў жыць у грахох і крыўдзіць народ. Усё-ж такі народ блудзіў, калі думаў, што Хрыстос асвабодзіць яго палітычна. Ісус Хрыстос ня хацеў быць палітыкам, ані каралём, як зямные каралі. Ён казаў народу: „Шукайце наперад Каралеўства Божага, і Праўды Яго, а ўсё іншае і так будзе вам“ (Мац. 6. 33). І сяньня блудзяць усе, калі думаюць, што палітыкаю, або вайною зробяць лепшую будычыню. Гэткаю дарогаю здабыцьцё ёсьць нятрывалае. Што гвалтам здабудзецца, гвалтам і адбяруць. Вось Ісус Хрыстос і хоча паставіць увесь народ у гэтакія абставіны, гдзе-б ўсялякая няпраўда і крыўда была нямагчыма. А гэта станецца толькі тады, калі людзі зразумяць вартасьць Каралеўства Божага і прымуць яго да сябе.

Найвялізарнейшаю радасьцяю чалавека ёсьць яго вера ў Бога, як міласэрднага нашага Айца, які нас шкадуе і абсыпае сваімі дарамі. Вялізарную радасьць мае чалавек тагды, калі ўверыць ў Ісуса Хрыста, што Ён ёсьць яго

**Збаўца, які памёр за нас на крыжу, каб выратаваць нас з палону граха.** Чалавек, які мае веру, што ён атрымаў Сьв. Духа, мае вялізарную радасьць. Маючы гэткую веру людзі перастаюць адзін аднаго нінавідзець, сярод іх міласьць. Тагды спыньваецца нацыянальнае нянавісьць, а пачынаюцца вузлы згоды і братэрства сярод нядаўных варагоў. Няспраўедліва загарнятую зямлю народ народу аддае па згодзе. І тагды сярод людзей пануе бязмежная радасьць.

Паслухай і ты чытач, голасу Ісуса Хрыста і будзеш мець вялізарную радасьць!

*Прачытаўшы газэту, ня зьнішчай яе, а дай другому пачытаць.*

**ХТО ХОЧА** мець пацеху са своіх дзетак, нехай іх пасылае слухаць слова Божага у капліцу Мэтадыстаў, гдзе пачуюць навуку, якая зашчэпіць у іх: паслухмяннасьць, далікатнасьць, працавітасьць, міласьць да бліжняга, чеснасьць. Дзеці якія гэтых прыметаў ня маюць, бегаюць па вуліцах, кураць папяросы, крадуць, ругаюцца і г. д., няхай прыходзяць да нас, мы хочам іх ратаваць.

*Хто хоча* пачаць новое жыцьцё нехай адведвае навуку Слова Божага і набаженствы ў касьцёле Матадыстаў у Вільні, Троцкая вул. № 9, Сланіме, Шасовая 1, Радашкавічах і ў інш. мясцох.

## Чытайце і пашырайце „Новы Шлях"!

„НОВЫ ШЛЯХ" каштуе 10 гр., за год з пірасылкаю—1 зл. 50 гр., на паўгода—80 гр., на 3 месяцы 40 гр. За граніцу на год 1/2 даляра. Грашыма або ў пачтовых марках. Гэты нумар ўсякі чытач можа атрымаць ДАРМА.

Рэдактар *С. Барткевіч.*

Вільня, Друкарня „POGOŃ-PAX", Сьвята Ігнатаўская вул. 5.